## «Пуцін – плагіятар Лукашэнкі»

***– Давайце пагаворым пра вашы першыя ўражаньні ад Мінску. Вы апошні раз у нас былі ў 1994 годзе, 25 гадоў таму. І, як я чытаў, вы ўжо сказалі ў адным з інтэрв'ю, што былі ў палоне стэрэатыпаў пра Беларусь, а цяпер яны разбураныя. Якія стэрэатыпы ў вас разбурыліся за пару дзён у Беларусі?***

– Па-першае – горад. Стэрэатып быў (які адклаўся ў мяне 25 гадоў таму), што гэта бедны, непрыгожы, правінцыйны, савецкі горад. А цяпер я бачу, што гэта еўрапейская сталіца. Усё па-іншаму. Няма савецкай эстэтыкі. Гэта ўжо іншая эстэтыка.

***– Як бы вы яе назвалі, абазначылі?***

– Я б сказаў, беларуская, еўрапейская.

***– Многія б з вамі тут паспрачаліся.***

– Другое – гэта людзі, з якімі я меў магчымасць размаўляць. Гэта ўжо не жыхары дыктатуры. Гэта свабодныя людзі, якія гавораць шчыра, без страху. У іх арыгінальнае, небанальнае мысленне.

Па-трэцяе. Калі я быў тут 25 гадоў таму, я меў магчымасць сустрэцца з адным вядомым беларускім пісьменнікам. І я спытаў, чаму ў вас такі прэзыдэнт. А ён адказаў: «Бо наш прэзыдэнт – гэта рэзыдэнт». Але гэта была няпраўда. Лукашэнка – не рэзыдэнт. Ён сам па сабе.

І я думаю, што Пуцін – плагіятар Лукашэнкі. Лукашэнка першы склаў такую мадэль улады, адыходу ад дэмакратыі ў бок «дэмакратуры», – і толькі потым Пуцін. Але цяпер у Расіі ўмовы для незалежнага мысленьня горшыя, чым у Беларусі. Бо ў Расіі ідзе працэс паглыбленьня «дэмакратуры». А ў Беларусі, як я думаю, ідзе лёгкая маленькая адліга. Калісьці ўлада ў вас зменіцца, а мадэрнізаваны горад застанецца беларусам.

***– Вы разумееце, што ў вас уражаньні турыста?***

– Вядома, абсалютна…

***– Вам не даводзіцца сустракацца з нейкімі беларускімі рэаліямі, з якімі жывуць мільёны звычайных грамадзянаў краіны. Бо многія беларусы, якія сустракаюцца з праявамі рэальнай дыктатуры, гэтай адлігі не бачаць і ў яе не вераць.***

– Гэта нармальна. Я цудоўна памятаю Польшчу ў іншых умовах, і нярэдка іншаземцы разумелі сытуацыю лепш за нас, палякаў. У 1989 годзе, калі праходзілі першыя амаль свабодныя выбары ў парламент, мы ўсе баяліся, што можам прайграць. Але амерыканскі амбасадар у Польшчы мне сказаў: «Адам, спакойна, вас чакае неверагодны поспех». Я яму не верыў, бо я не давяраў таму, што адбывалася ў Польшчы. Але ў яго быў іншы пункт погляду, і ён бачыў глыбей за мяне.

Я не хачу казаць, што я маю рацыю, а мае беларускія сябры памыляюцца. Магчыма, я не маю рацыі, я сказаў пра свае ўражаньні. Магчыма, я такі самы дурань, як Сартр, які прыехаў у Маскву і яму там усё падабалася. А там быў кашмар.

> ”
> **Пуцін – плягіятар Лукашэнкі. Лукашэнка першы склаў такую мадэль улады, адыходу ад дэмакратыі ў бок «дэмакратуры», – і толькі потым Пуцін.**

***– Вы як былы дысідэнт што б параілі сённяшнім беларускім апазіцыянерам? Удзельнічаць у выбарах, ігнараваць іх, спрабаваць неяк уплываць на ўладу, спрабаваць весці з ёй дыялог ці проста бескампрамісна змагацца з гэтай уладай? Таму што ёсць погляд, што, пакуль існуе гэтая ўлада, ні рэформы, ні дыялог з грамадствам не магчымыя.***

– Я не буду спрабаваць вучыць беларускую апазіцыю, яны ведаюць лепш за мяне, што рабіць. Магу толькі сказаць, што ў Польшчы мы мелі тыя ж самыя дылемы і сумневы. І тут няма адзінага адказу, бо ўсё залежыць ад кантэксту. Калісьці трэба байкатаваць, а калісьці ўдзельнічаць.

## «Я баюся такой адлігі, якая будзе толькі для дзяржаўнай эліты»

***– Апошнім часам палітыка еўрапейскіх лідэраў у дачыненні афіцыйнага Мінску змянілася. Зменшылася падтрымка дэмакратычнай апазіцыі, еўрапейскія лідэры***

***сустракаюцца з Лукашэнкам, запрашаюць яго да сябе. Яны ўжо не настолькі цвёрда настойваюць на пытаннях дэмакратыі і правоў чалавека, гатовыя падтрымліваць афіцыйную ўладу ў некаторых пытаннях.***

– Цяпер вы хочаце, каб я вучыў еўрапейскіх палітыкаў. І тут няма адзінага адказу. Усё залежыць ад таго, як гэта ацэньваюць беларускія дэмакраты.

***– Ім гэта не падабаецца, я магу дакладна сказаць. Кардынальнае змяншэнне падтрымкі, якое адбылося за апошнія год-два, ім вельмі не падабаецца.***

– Мне складана адказаць, я не зусім ведаю кантэкст. Тое, што Лукашэнка не рэзідэнт і праводзіць уласную палітыку, мне гэта зразумела. Я б хацеў, каб была падтрымка для беларускіх дэмакратаў. Трэба шукаць такія метады падтрымкі, якія будуць плённымі. Як гэта рабіць – не для публічнага абмеркавання. Я сам працаваў не адзін год у падполлі.

Для мяне відавочна: калі ёсць магчымасць зрабіць нешта добрае для краіны, трэба гэта падтрымліваць. З другога боку, я баюся такой адлігі, якая будзе толькі для дзяржаўнай эліты.

***Любая краіна мае свой момант, калі надыходзіць час для палітычных рэформаў альбо для мадэрнізацыі ва ўмовах дыктатуры.***

***– Польшча – гэта пэўны феномен апазіцыйнага руху ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе. Разам з сябрамі вы стварылі арганізацыю, якая потым стала імпульсам для «Салідарнасці» – я маю на ўвазе Камітэт абароны рабочых. Вы, інтэлектуалы, сталі рухавіком для рабочага руху. Як гэта наогул стала магчымым? Як рабочыя маглі паверыць інтэлігентам? Сёння ў Беларусі часта абвінавачваюць апазіцыю, што яна адарваная ад народу…***

– Нам тое самае казалі. Усе тыя аргумэнты, якія вы чуеце, чулі і мы ў Варшаве. Галоўнае – што для народа ў гэты момант важна. Момант вялікай перамены ў СССР – гэта быў Чарнобыль, які перамяніў псіхалогію людзей. Сігналам для грамадзянскай актыўнасці часта становіцца экалогія.

Я не ведаю, што стане такім сігналам цяпер. Калі ў Польшчы былі студэнцкія пратэсты, рабочыя ўспрынялі іх асцярожна, адчужана. У снежні 1970 года, калі быў вялікі страйк рабочых у Гдыні, Гданьску, інтэлектуалы маўчалі. І ў 1976 годзе падчас рабочых пратэстаў стала зразумела, што ўсім трэба нешта рабіць. І з гэтых матываў быў створаны Камітэт абароны рабочых. Інтэлігенты, студэнты, пісьменнікі арганізоўвалі падтрымку рабочых – гэта быў першы момант будавання грамадзянскай супольнасці. Так адбылося, што мы абаранялі рабочых, а потым ужо яны абаранялі нас.

Як будзе далей, ніхто не ведае. Але я думаю, што праект «дэмакратуры», які мы бачым у Польшчы, Вугоршчыне, Расіі, Турэччыне, Бразіліі, ЗША, – гэта пераходны пэрыяд. Як рэфармаваць дэмакратычныя краіны – гэта іншае пытанне. Бо мы бачым, што на сёньня дэмакратыя ў крызіснай сытуацыі. Брэксіт, Італія, Францыя, сепаратызм. Відавочна, што мая мара для будучыні – гэта не дыктатура.

## «Любая краіна мае свой момант, калі надыходзіць час для палітычных рэформаў»

***– Пытанне да вас як да гісторыка. Чаму, па-вашаму, у Польшчы атрымалася даволі хутка правесці радыкальныя рэформы, у Прыбалтыкі атрымалася таксама, але магчыма, не так паспяхова, ва Украіне з пакутамі і пазней, але змены ідуць, – то чаму Беларусь у 1994-м выбрала мінулае і ідзе шляхам, адрозным ад сваіх суседзяў?***

– Як гісторык я адкажу так. Любая краіна мае свой момант, калі надыходзіць час для палітычных рэформаў альбо для мадэрнізацыі ва ўмовах дыктатуры. Возьмем прыклад Паўднёвай Карэі, я нядаўна ўдзельнічаў у канферэнцыі ў Сеуле. У 1956 годзе гэта краіна была яшчэ бяднейшая за Польшчу, цяпер цяжка ўявіць, якая гэта была краіна. І першыя 25 гадоў мадэрнізацыя рабілася ва ўмовах дыктатуры. Але ў выніку мы бачым дэмакратыю.

Калі я гляджу сёння на Мінск, то гэта горад не для дыктатуры. Гэта горад для дэмакратыі і для свабодных людзей.

***– Расія нібыта раней за Беларусь падышла да дэмакратыі на пачатку 90-х, але***




***гэта хутка скончылася. Ці гэтыя некалькі гадоў былі выключэннем з гістарычнага правіла для гэтай дзяржавы і яна зноў вярнулася ў свой звыклы стан? Ці можа Расія ў цяперашнім выглядзе ўвогуле стаць дэмакратычнай краінай?***

– Пакуль ва ўладзе Уладзімір Пуцін, Расія не будзе дэмакратычнай краінай. Ён упэўнены, што тое, што адбываецца ў Расіі, – тое самае, што і на Захадзе, няма ніякай розніцы, хлусня і агрэсія і там, і там.

Безумоўна, я думаю, што Расія будзе дэмакратычнай. Не існуе ў гісторыі фаталізму. Ніхто ж не думаў, што будзе ў СССР перабудова, што са Стаўрапаля прыедзе апаратчык і пераробіць увесь свет.

Ельцын не быў дэмакратам. Ён быў свабодалюбам, але не дэмакратам. Бо дэмакратыя – гэта свабода ў рамках прававой дзяржавы. У Расіі не было прававой дзяржавы, была смута.

Што мы ўбачылі? Што ў Расіі ёсць моцны інтэлектуальны патэнцыял на стварэнне дэмакратычнай дзяржавы. Таксама мы пабачылі, што ў Расіі вельмі глыбока існуе імперская псіхалогія.

***– «Крымнаш» падтрымлівае больш за 80 адсоткаў.***

– Сёння ўжо менш, я думаю. Гэта вельмі цікавы момант. З майго гледзішча, тут усё ясна. Але аднойчы ў Польшчы літоўскі журналіст мяне спытаў: «Чаму вы не можаце заявіць, што бунт Жалігоўскага ў Вільнюсе – гэта было злачынства?» Я кажу: дык для любога польскага палітыка, які так скажа, гэта будзе палітычная смерць. І пакажыце мне расейца, які скажа, што Севастопаль – гэта ўкраінскі горад. З гэтага гледзішча Вільня для палякаў – гэта польскі горад…

***– А для беларусаў – гэта беларускі горад.***

– Вось-вось, і нічога не зробіш. Калі я быў у Маскве ў цэнтры Сахарава, то да мяне падышоў чалавек і гаворыць: «Скажыце, а Міцкевіч якой нацыянальнасьці? Беларус!» Трэба разумець, што калі мы будзем паводзіць сабе разумна, то Міцкевіч, Каліноўскі, Тарас Шаўчэнка – яны не польскія, беларускія ці ўкраінскія, а яны ўсіх тых, хто іх любіць.

І ёсць дзве філасофіі – альбо падтрымліваць усе канфлікты, якія былі (і мы гэта маем у Польшчы, украінафобскую істэрыку вакол Валыні). Але мы вучні Ежы Гедройца, які нарадзіўся ў Мінску.

***– Ведаеце, у нас самая прэстыжная прэмія для беларускіх пісьменьнікаў мае імя Гедройца. Гэта наш беларускі Нобель.***

– Фантастыка, мне гэта вельмі падабаецца! Гедройц сфармуляваў філасофію УЛБ – Украіна, Літва, Беларусь. І гэта было палітыкай польскага ўраду, калі ва ўладзе не былі нацыяналісты. Калі прыйшлі нацыяналісты, зявіўся нацыянальны эгаізм, палонацэнтрызм.

***– Вам гэта не падабаецца?***

– Абсалютна. Я думаю, гэта проста як чума для польскай палітыкі і культуры.

## «Патрыятызм – гэта калі ты хочаш свабоды для сваёй радзімы; нацыяналізм – калі ты ідзеш супраць іншай нацыі»

***– Але калі была эпоха «Салідарнасці» – гэта ж было не толькі імкненне да свабоды, але і жаданне вызваліцца ад савецкага прыгнёту, аднавіць польскую поўную незалежнасьць. Хіба***



***не было ў «Салідарнасці» пэўнай дозы польскага нацыяналізму?***

– Чаму вы кажаце «нацыяналізм», а не «патрыятызм»? Патрыятызм – гэта калі ты хочаш свабоды для сваёй радзімы; нацыяналізм – калі ты ідзеш супраць іншай нацыі. Андрэй Сахараў – патрыёт Расіі, а Брэжнеў – вялікарасейскі імперыяліст.

***– Адна з найбуйнейшых польскіх сацыялагічных лабараторый CBOS сёлета апублікавала апошняе апытанне грамадскай думкі, якое тычыцца этнічных сімпатый і антыпатый палякаў. Паводле апытаньня, усяго 21% палякаў з сімпатыяй ставяцца да беларусаў, а 32% рэспандэнтаў адчуваюць да нас антыпатыю. Яшчэ ў 31% палякаў нейтральнае стаўленне, і 16% не змаглі вызначыцца са сваімі перавагамі. Вось тыя, хто мае антыпатыю да беларусаў, чаму яны яе адчуваюць? Як увогуле можна не любіць беларусаў? За што?***

– Гэта проста невуцтва. Беларус для прымітыўнага чалавека – гэта «рус». А рускіх у Польшчы не любяць, у нас моцная русафобія. Я шмат гадоў кажу, што я сапраўдны антысавецкі русафіл.

Ніхто, хто нешта ведае пра Беларусь, не мае да беларусаў ніякай антыпатыі.

***– Дык, можа, сама афіцыйная Беларусь вінаватая ў тым, што многія палякі не аддзяляюць беларусаў ад расейцаў? Мінск праводзіць прарасейскую палітыку. Таму ў гэтым палітыка Лукашэнкі вінаватая?***

– Не думаю. Быў такі пісьменьнік Тадэвуш Канвіцкі. І ў сваёй кнізе пра Беларусь ён пісаў «Добрарусь». Ён быў з Віленскага краю, і падчас вайны ён выратаваўся ў беларускай вёсцы. Але ў Польшчы існуе невуцтва на тэму Беларусі.

Калі і ёсць нейкая маленькая віна беларусаў, то яна ў тым, што ў нас у Польшчы ёсць фонд для выданьня польскай літаратуры на іншых мовах. Калі б такі фонд быў і ў Беларусі, яны б хутка знайшлі ў Польшчы партнёраў. Напрыклад, выданьне кніг Быкава. Гэта вялікі пісьменнік. Яго ў Польшчы ведаюць, але – парадокс – як расейскага пісьменніка.

## «Нарацыі пра „бандэраўцаў у Кіеве“ – гэта доўгая рука маскоўскага КДБ»

***– Польшча заўсёды апошнія гады падтрымлівала Украіну. Але ці не змянілася гэтае стаўленне пасля перамогі Майдану? Рэформы ва Украіне ідуць нялёгка, у Еўропе адчуваецца пэўная «стомленасьць Украінай», да таго ж сотні тысяч украінцаў пераехалі і жывуць у Польшчы. Ці змяніла гэта стаўленне палякаў, ці зяўляюцца ў іх ксэнафобскія пачуцці?***

– Ксенафобам не патрэбны нават украінцы ці беларусы для ксенафобіі, ім хапае палякаў з іншага гораду. Бо ксенафобія – гэта хвароба.

***– Дык стасункі Варшавы з Кіевам па-ранейшаму максімальна прыязныя, ці Ўкраіна ўжо ўспрымаецца як патэнцыйны канкурэнт?***

– Канкурэнцыі я не бачу. Я лічу, што ўсе гэтыя нарацыі пра «бандэраўцаў у Кіеве» – гэта доўгая рука маскоўскага КДБ.

***– Якая пранікае ў польскую прэсу і грамадства?***

– Вядома. Праз медыя, інтэрнэт. Калі яны пранікаюць у Амерыку, то ў Польшчу працей. Яны не могуць зрабіць у Польшчы моцнага прапуцінскага лобі, а антыўкраінскае – чаму б не?

У нас нацыяналісты ва ўладзе. Яны антырускія і антынямецкія. Але Нямеччына – багатая і моцная. Расія – з атамнай бомбай. А Ўкраіна слабая. Кожны хам можа плюнуць у той бок, і яны гэта робяць.

***– Як рэдактар як вы бачыце галоўныя выклікі для якаснай прэсы? Ці адбылася прымітывізацыя кантэнту? Ці гоніцеся вы за густамі чытачоў, ці найперш сочыце за якасцю і імкнецеся цягнуць чытача за сабой? Як вы вырашаеце гэтую вечную праблему паміж якасцю і масавымі запатрабаваннямі публікі?***

– Вы слушна сказалі, што гэта вечная праблема. Відавочна, што густы мяняюцца, трэба шукаць тэмы, важныя для моладзі, якія мне не вельмі цікавыя. Але трэба трымацца якасці. Калі мы ад гэтага адыдзем – гэта будзе таблоід для зараблянне грошай, а не для абароны нейкіх каштоўнасцяў. Нашы рэдактары ўсе былі людзі з падполля, турмы, апазіцыі. І мы пайшлі ў газету, каб будаваць элемент і інстытут польскай дэмакратыі.

***– Значыць, прэса павінна заставацца з місіяй? Яна не павінна быць такой самай вытворчасцю, як выраб кашуляў?***

– Вядома. Іначай гэта будзе гэтаксама цікава для чытачоў, як выраб кашуляў.

## «Жыць у крайнасцях немагчыма, але жыць бяз крайнасцяў сумна»

***– Фільм пра вас, які быў паказаны на фестывалі ў Мінску, называецца «Будзьце рэалістамі – патрабуйце немагчымага». Лозунг студэнцкай рэвалюцыі 1968 года. Гэта і ў цяперашнім узросце застаецца вашым жыццёвым лозунгам ці гэта проста прыгожы афарызм?***

– Гэта афарызм, але гэта і спосаб незалежнага мыслення. Ніхто ж не думаў, што стане магчымым падзенне Берлінскай сцяны і развал СССР – але да гэтага «немагчымага» трэба імкнуцца. Цікава, што для кансерватараў гэты лозунг – як сімвал камунізму. Не, для мяне камунізм – гэта страх, фанатызм, дагматызм, прымітыўнае мысленне.

«Будзьце рэалістамі – патрабуйце немагчымага» – гэта запрашэньне да бунту, нязгоды. Вядома, гэта не лозунг для дэмакратычнай прававой дзяржавы. З другога боку, прававая дзяржава – гэта дзяржава «сярэдніх тэмператур». Але сэнс жыцця мы маем толькі дзякуючы крайнасцям. Жыць у крайнасцях немагчыма, але жыць бяз крайнасцяў сумна.

> **Беларус для прымітыўнага чалавека – гэта «рус». А рускіх у Польшчы не любяць, у нас моцная русафобія.**

***– У працяг гэтай тэмы пытанне пра кампрамісы. З кім можна садзіцца за круглы стол, улічваючы вашу гісторыю дыялогу «Салідарнасці» з камуністамі? Дзе тая мяжа, з кім можна ісці на дыялог, а з кім нельга ісці на кампрамісы?***

– Нам было відавочна, што калі мы не пойдзем на круглы стол, мы ідзём на рызыку грамадзянскай вайны. Ёсць людзі, якія кажуць, што круглы стол патрэбен толькі дзеля таго, каб «выключыць» партнёра.

Што будзе лепш для краіны? Напрыклад, відавочна, што ў 1917 годзе для Расіі быў бы найлепшым урад кампрамісу. Але Леніну і бальшавікам гэта было нецікава.

***– Навошта браць палову, калі можна ўзяць усё?***

– Вось-вось. Бальшавікі не думалі пра Расію, а думалі пра тое, як зрабіць Расію закладніцай бальшавіцкай партыі.

Я чалавек кампрамісу, але я ведаю, што ёсць такія ўмовы, пры якіх кампраміс – гэта злачынства. Калі я сядзеў у турме, і казалі: «Калі падпішаце, то можаце ехаць у Францыю і Італію», я ім паказаў «жэст Казакевіча» (Казакевіч таксама беларус) і адказаў: «Не».

**Фота – з артыкулу на www.svaboda.org**

# Пад уплывам ААН: ці змянілася сітуацыя са свабодай слова ў Беларусі?

Алег АГЕЕЎ,
Вольга СЯХОВІЧ

**Універсальны перыядычны агляд (УПА) – гэта праваабарончы механізм, які быў створаны ААН ў 2006 годзе для таго, каб кожная дзяржава – удзельніца Савета па правах чалавека праінфармавала астанія дзяржавы – удзельніцы Савета пра зробленыя ёю паляпшэнні ў галіне правоў чалавека. Усе гэтыя краіны могуць даваць рэкамендацыі дзяржаве, якая трымае справаздачу.**

У 2020 годзе Беларусь будзе праходзіць ужо трэці цыкл справаздачнасці паводле УПА на 36-й сесіі Савета па правах чалавека ААН, якая адбудзецца ў Жэневе (Швейцарыя) з 4 па 15 траўня.

## Спадзяванні на адлігу

Кааліцыя праваабарончых арганізацый, у якую ўваходзіць і ГА «БАЖ», падрыхтавала і накіравала ў ААН альтэрнатыўны даклад пра выкананне Рэспублікай Беларусь абавязацельстваў у галіне правоў чалавека, які ўтрымлівае 13 раздзелаў. Адзін з іх – «Свабода выказвання меркавання, свабода СМІ» – падрыхтаваны нашай арганізацыяй.

З 13 рэкамендацый, датычных свабоды слова, адрасаваных Беларусі падчас другога цыкла УПА, 5 рэкамендацый былі ёю падтрыманы:

- забяспечыць большыя гарантыі свабоды прэсы і свабоды выказвання меркаванняў, а таксама права на інфармацыю, якая адлюстроўвае розныя пункты гледжання;
- у поўнай меры гарантаваць свабоду выказвання меркаванняў і ўстрымлівацца ад адвольных арыштаў журналістаў;
- выконваць прынятыя абавязацельствы ў частцы забеспячэння гарантый свабоды асацыяцый і свабоды выказвання меркаванняў;
- заахвочваць і абараняць свабоду сродкаў масавай інфармацыі і права на свабоднае выказванне меркаванняў; прыняць меры да прывядзення заканадаўства і практыкі ў адпаведнасць з артыкулам 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах; справядліва расследаваць усе выпадкі нападу, пераследу і запалохвання, каб прыцягнуць вінаватых да адказнасці;
- палепшыць агульную сітуацыю са свабодай сродкаў масавай інфармацыі.

Беларусь у 2016 годзе прыняла Міжведамасны план па выкананні прынятых рэкамендацый. Каб даць аб’ектыўную ацэнку дзеянням урада па іх ажыццяўленні, БАЖ распрацаваў адпаведны набор індыкатараў. У 2018 годзе мы зрабілі прамежкавую ацэнку працы дзяржаўных органаў у галіне свабоды выказвання.

Выснова была несуцяшальная: «Распрацоўка Міжведамаснага плана, на жаль, не прывяла да якіх-небудзь значных вынікаў для сітуацыі са свабодай слова».

Паводле ацэнкі БАЖ, з агульнага ліку рэкамендацый другога цыкла ні адна з іх не была выканана поўнасцю. А пяць былі выкананы часткова (у тым ліку дзве з не падтрыманых дзяржавай рэкамендацый).

Значнага паляпшэння ў сферы свабоды слова ў Беларусі не адбылося, хоць можна адзначыць, што дзяржава ўступіла ў дыялог з грамадзянскай супольнасцю (у прыватнасці, пры абмеркаванні законапраектаў) і зрабіла некаторыя крокі па выкананні рэкамендацый.

Неўзабаве ўсе недзяржаўныя выданні, якія звярнуліся ў дзяржаўнае прадпрыемства «Белпошта», уключылі ў падпісныя каталогі. А прадпрыемствы «Белсаюздруку» пачалі іх прадаваць незалежна ад рэдакцыйнай палітыкі. Не было выпадкаў неабгрунтаванай адмовы ў рэгістрацыі друкаваных медыя. Такім чынам, дзяржава адмовілася ад шэрагу дыскрымінацыйных мер эканамічнага характару ў дачыненні да недзяржаўных СМІ. Аднак дагэтуль захоўваецца фінансаванне дзяржаўных СМІ за кошт дзяржаўнага бюджэту на пазаконкурснай аснове.

Пазіцыя Беларусі ў рэйтынгах па свабодзе слова ў параўнанні з папярэднім перыядам нязначна палепшылася, аднак эксперты адзначаюць, што збольшага гэта звязана з пагаршэннем агульнай сітуацыі са свабодай слова ў свеце. Згодна з рэйтынгам «Freedom in the World 2019» (Freedom House), Беларусь застаецца несвабоднай краінай, але больш не ўваходзіць у групу краін з найгоршай сітуацыяй. У сусветным індэксе свабоды прэсы («Рэпарцёры без межаў») Беларусь перамясцілася са 155-га на 153-е месца (у рэйтынгу 180 краін).

Тым не менш найбольш важныя праблемы ў сферы свабоды выказвання, адзначаныя ў рэкамендацыях УПА, застаюцца нявырашанымі.

**_Традыцыйнай праблемай застаецца беспакаранасць злачынстваў супраць журналістаў. Выпадкі парушэння правоў журналістаў супрацоўнікамі міліцыі застаюцца беспакаранымі._**

## Замест адлігі – замаразкі

Дыфамацыйныя артыкулы Крымінальнага кодэкса, хаця і былі крыху падкарэктаваныя, працягваюць прымяняцца. Крымінальны пераслед, звязаны са свабодай выказвання меркавання меў месца ў так званай справе «рэгнумаўцаў»; справе кіраўніка інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Алеся Ліпая, спыненай у сувязі з яго смерцю; «справе БЕЛТА», якая скончылася асуджэннем галоўнага рэдактара TUT. BY Марыны Золатавай; справе блогера Сяргея Пятрухіна. У 2018 годзе пачасціліся выпадкі ператрусаў, у тым ліку звязаныя з узбуджэннем крымінальных спраў. Яны суправаджаліся канфіскацыяй тэхнікі і абсталявання ў журналістаў і блогераў.



*Алег Агееў і Андрэй Бастунец на прэс-канферэнцыі «Сітуацыя са свабодай слова ў Беларусі»*
*Фота baj.by*

На жаль, дзяржава дэманстравала гатоўнасць затрымліваць журналістаў падчас ажыццяўлення імі прафесійнай дзейнасці.

Заканадаўства, якое рэгулюе дзейнасць медыя, не было зменена так, каб дазволіць фрылансерам вольна супрацоўнічаць з замежнымі СМІ. Колькасць выпадкаў прыцягнення да адказнасці журналістаў, якія працуюць на замежныя СМІ без акрэдытацыі ў Рэспубліцы Беларусь рэзка ўзрасла (з 10 выпадкаў у 2016 годзе да 118 – у 2018 годзе). За няпоўныя 12 месяцаў 2019 года журналістам прысудзілі больш як 40 штрафаў.

***Паводле ацэнкі БАЖ, з агульнага ліку рэкамендацый другога цыкла ні адна з іх не была выканана поўнасцю. А пяць выкананы часткова.***

Таксама можна адзначыць пагаршэнне сітуацыі са свабодай выказвання ў Інтэрнэце, звязанае з узмацненнем кантролю дзяржавы ў выніку зменаў, унесеных у Закон «Аб сродках масавай інфармацыі» ў 2018 годзе.

БАЖ настойваў на адмене адказнасці ўладальнікаў сайтаў за каментарыі карыстальнікаў, а таксама на абмежаванні паўнамоцтваў Міністэрства інфармацыі па адвольным прыняцці рашэнняў аб абмежаванні доступу да інтэрнэт-рэсурсаў, але гэтага не адбылося. Нічога не зроблена для распроўкі і прыняцця дэмакратычнага закона «Аб доступе да інфармацыі».

Традыцыйнай праблемай застаецца беспакаранасць злачынстваў супраць журналістаў. Выпадкі парушэння правоў журналістаў, у тым ліку супрацоўнікамі міліцыі, застаюцца беспакаранымі. Дагэтуль не праведзены поўныя і ўсебаковыя расследаванні гвалтоўных злачынстваў супраць журналістаў (у першую чаргу выкраданне Дзмітрыя Завадскага, забойства Веранікі Чаркасавай), а вінаватыя не прыцягнуты да адказнасці.

## Нашы патрабаванні

Відавочна, што трэба яшчэ нямала зрабіць па выкананні міжнародных абавязацельстваў, якія гарантуюць свабоду слова ў нашай краіне. Таму ГА «БАЖ» рэкамендавала ў кааліцыйным дакладзе, каб у трэцім цыкле УПА іншыя дзяржавы параілі Беларусі:

- прывесці ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі заканадаўства, якое рэгулюе свабоду выказвання меркаванняў у Інтэрнэце;
- распрацаваць і прыняць заканадаўства для забеспячэння эфектыўнага доступу да інфармацыі пра дзейнасць дзяржаўных органаў;
- адмовіцца ад дазвольнага парадку рэгістрацыі друкаваных і анлайн-медыя;
- прывесці паняцце «акрэдытацыя» ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі і адмяніць забарону на дзейнасць журналістаў замежных СМІ без акрэдытацыі, а таксама прадугледзець магчымасць абскардзіць адмову ў акрэдытацыі, у тым ліку ў судзе;
- абмежаваць паўнамоцтвы Міністэрства інфармацыі па пазасудовым ўмяшанні ў дзейнасць СМІ, у тым ліку па блакаванні доступу да інтэрнэт-рэсурсаў;
- цалкам адмовіцца ад практыкі адвольных затрыманняў журналістаў, у тым ліку падчас асвятлення імі масавых мерапрыемстваў.

Спадзяемся, што ўлады прымуць рэкамендацыі трэцяга цыкла Універсальнага перыядычнага агляду і пачнуць рэальна паляпшаць сітуацыю са свабодай слова ў Беларусі.

# БАЖная проза і паэзія

Сяргей ПУЛЬША

**Леташні год выдаўся для беларускіх журналістаў багатым на падзеі. І звязаныя яны былі не толькі з непасрэднай штодзённай працай. Нашы калегі знайшлі час на дадатковую творчасць: як кажуць літаратурныя крытыкі, на «буйныя формы». У 2019-м выйшла даволі шмат цікавых кніг, напісаных сябрамі БАЖ. Асабісты і, будзем казаць шчыра, суб’ектыўны агляд для карыснага і забаўляльнага чытва мы вам прапануем.**




## *Алесь Пілецкі* «Казкі па целефоне»

Зборнік гісторый Алеся Пілецкага, які выдала Радыё Свабода, быў чаканым, а ідэя вісела літаральна ў паветры. Алесь Пілецкі разбаўляў будзённасць сваёй працы, выдумваючы гумарэскі пра тое, як Аляксандр Рыгоравіч з рознымі людзьмі абмяркоўвае па тэлефоне актуальныя для Беларусі падзеі. Хэштэг #давайпака знаёмы, бадай, усім журналістам.

Гэта кніга была проста вырачаная на поспех. Па-першае, у нашай краіне амаль няма палітычнай сатыры. Усе імкнуцца быць сур’ёзнымі «аналітыкамі», «даследчыкамі», «палітолагамі», а Пілецкі – ці не адзіны аўтар, які з нашага палітычнага працэсу проста сцябецца. Па-другое, такая «Facebook-літаратура» зараз, як кажуць, у трэндзе, і з гэтага трэнду выйдзе, падаецца, не хутка. Бо гэта – сусветная тэндэнцыя, якая пачалася яшчэ з LiveJournal.

Яшчэ тады, калі ніхто не ведаў слова «блог», існаваў сайт vladimir.vladimirovich.ru з гісторыямі, падобнымі (і не падобнымі) на Пілецкага, толькі пра кіраўніка Расіі. Шалёную папулярнасць набылі такія ж інтэрнэт-допісы, укладзеныя ў кнігі, Славы Сэ – псеўданім латвійскага аўтара Вячаслава Салдаценкі, які піша на рускай мове. Ды што там далёка хадзіць: знакамітае «Радзіва Прудок» улюбёнага намі Андруся Горвата таксама вырасла з Facebook.

І цяпер – Пілецкі.

Варта зазначыць, што сам Алесь адхрышчваўся ад выдання баек на паперы рукамі і нагамі. У адным з інтэрв'ю на пытанне, ці выйдзе кніжка, ён казаў: «Цяпер папяровая кніга – прадукт не для ўсіх і не для ўсяго. Чалавек кнігу набывае, каб засяродзіцца, падумаць над добрым, разумным і прыгожым тэкстам, каб атрымаць эстэтычную асалоду. А з #давайпака якая асалода і эстэтыка? Гэта ўсё толькі ў Facebook успрымаецца. Вырві з кантэксту – і ніякага сэнсу. Так што не будзе кнігі».

Ён меў рацыю і не меў. Сапраўды, адзіны значны недахоп выдання – адсутнасць кантэксту. Няма перад гісторыямі пары радкоў тлумачэнняў: з якой нагоды той ці іншы дыялог быў напісаны. Але, можа, гэта і добра: чытач павінен узгадваць «найноўшую гісторыю», каб «урубіцца» ў тое, што ён чытае. А гэта выдатна трэніруе памяць.

Так што #давайпака.






## *Анастасія Зелянкова* «Дзённікі супрацоўніка НКУС: дакументальнае выкрыццё сталінізму»

Як вядома, у нашай прафесіі спярша журналіст працуе на імя, а потым – імя на журналіста. Новая кніга журналісткі «Салідарнасці» – яскравае таму пацвярджэнне.

Яна пазнаёмілася з унукам супрацоўніка НКУС Уладзімірам Ятчэням праз Facebook. Той доўгі час чытаў «Салідарнасць» і захапляўся артыкуламі Зелянковай. Але доўгі час сумняваўся, ці будуць цікавыя шырокаму колу чытачоў дзённікі яго дзеда. Апошняй кропляй для Уладзіміра стала з'яўленне былога міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча на свяце 9 мая ў форме афіцэра НКУС.

А каму даручыць літаратурную апрацоўку дзённікаў, як не ўлюбёнай журналістцы?

У рамках падрыхтоўкі кнігі Зелянковай, сярод іншага, прыйшлося прабівацца ў архіў КДБ. А грошы на выданне сабралі ўжо традыцыйным зараз чынам – праз краудфандынг, народныя ахвяраванні. План жа па зборы сродкаў на дзённікі супрацоўніка НКУС быў перавыкананы ў некалькі разоў.

Зелянкова, якая год таму выпусціла кнігу «В постели с белорусом: из истории национального секса», нават жартавала: «Тэма НКУС апынулася беларусам цікавейшая, чым тэма сэксу!».

Не буду сцвярджаць, што сэкс беларусаў цікавіць менш. Але тут, напэўна, цікавая не столькі тэма НКУС, колькі тэма гісторыі ў агульным. У дадзеным выпадку, гісторыі ў нечым нават патаемнай: улады ўсяляк імкнуцца замоўчваць тэму сталінскіх рэпрэсій ў Беларусі, ніверліраваць і маргіналізаваць яе. Архівы КДБ дасюль не раскрытыя нават для даследчыкаў. А, як вядома, калі кажуць «не», то хочацца ўдвайне.

Да таго ж, расповед чалавека, які спачатку ажыццяўляў рэпрэсіі, а потым сам апынуўся ў гэтай мясарубцы – ужо інтрыгуючы сюжэт.

І яшчэ раз – дзякуй медычнаму цэнтру «ЛАДЭ», які аказаў значную дапамогу Зелянковай у выданні гэтай кнігі.

## *Анатоль Гатоўчыц* «Адысея капітана БНР»

Яшчэ адну кнігу, заснаваную на ўспамінах і мемуарах, выдаў у Гомелі сябра ГА «БАЖ» Анатоль Гатоўчыц. «Адысея капітана БНР» – пра лёс змагара беларускага нацыянальнага адраджэння ў паваенны час Цімоха Акімавіча Вострыкава.

Кніга выдадзеная ў серыі, прымеркаванай да 100-гадовага юбілею абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. У ёй ужо выходзілі аповеды пра Палуту Бадунову і Рыгора Клімовіча.



Але Вострыкаў – асаблівы выпадак. Група Вострыкава ў жніўні 1952 года высадзілася з амерыканскага самалёта ў Налібоцкай пушчы, каб дамагацца незалежнасці Беларусі.

Яшчэ адзін цікавы лёс: чалавек, які меў даволі вялікія перспектывы, вучыўся ў адным з самых вядомых універсітэтаў Еўропы, ужо маючы некалькі прафесій, кінуў усё і паляцеў вызваляць Беларусь. І нельга сказаць нібыта ён не ведаў, што яго чакае ў выпадку правалу, бо сутыкаўся з савецкай сістэмай яшчэ падчас сталінскай калектывізацыі.

Так і апынулася – 23 гады мардоўскіх лагераў. А потым – вяртанне ў Беларусь і праца на «Гомсельмашы». Ані КДБ, ані ГУЛАГ яго не зламалі, не перакавалі ў «савецкага чалавека», хоць ён паўсотні разоў апынаўся ў карцары і агулам правёў у ім амаль цэлы год, жывучы толькі на хлебе і вадзе. Не перакаваўся Вострыкаў і ў выніку прымусу КДБ паўдзельнічаць у выкрыцці амерыканскага шпіёна ў Маскве на пачатку 1980-х.

Яшчэ адна цікавостка і іронія лёсу: у адрозненне ад сваіх ворагаў, ён пабачыў тое, за што ўсё жыццё змагаўся. Ён заспеў, хай і не такую, пра якую ён марыў – але незалежную Беларусь. Напачатку 1990-х, на хвалі Адраджэння, калі ў Гомелі быў створаны філіял Коласаўскага ліцэя, ён прыходзіў да вучняў на курс «Гісторыя беларускага моладзевага руху», асабістым прыкладам даказваючы, што змагары за незалежнасць Беларусі не бандыты і не ворагі, а пісьменныя, адукаваныя і разумныя людзі.

Памёр Цімох Вострыкаў у 2007-м, на 85-м годзе жыцця. Але лёс яго – круцейшы за дэтэктыў.






## *Канстанцін Скуратовіч, Аляксандр Куляеў* «Востраў Суомі. Ажыццяўлёная ўтопія»

Аднойчы, ужо пасля пачатку расійска-украінскай вайны на Данбасе, абмяркоўваючы гэту сітуацыю як вынік «Рэвалюцыі Годнасці», мой украінскі сябра, рэдактар часопіса «Украінскі Тиждень» Дмітро Крапівенка сказаў нешта кшталту: «Ніводная краіна, якая пазбавілася расійскага уплыву і апекі, пра гэта не пашкадавала». Кніга «Востраў Суомі…», па-мойму, якраз пра гэта.

Ідэя напісання кнігі, па словах аўтараў, з'явілася пасля расійска-грузінскай вайны жніўня 2008 года. Тады Расія, абвінаваціўшы Грузію ў парушэнні дзяржаўных інтарэсаў, акупавала Абхазію і Паўднёвую Асецію, стварыўшы на іх тэрыторыі дзве падкантрольныя псеўдадзяржавы.

Потым быў Крым і Данбас, але аўтары заўважылі падабенства палітычных і ваенных тэхналогій Расіі, што выкарыстоўваў СССР у малавядомай нам «зімняй вайне» – вайне з Фінляндыяй у 1939–1940 гадах.

Увосень 1939 года паміж СССР і Фінляндыяй вяліся перамовы аб тэрытарыяльных саступках. Савецкі Саюз прэтэндаваў на частку Карэльскага перашыйка з нядрэнна развітой сеткай чыгунак і аўтамабільных дарог, выспы у Фінскім заліве і «арэнду» фінскага паўвострава Ханко. Узамен Фінляндыя павінна была атрымаць вялікую па плошчы, але менш каштоўную ў эканамічным і стратэгічным плане Карэлію: фактычна адны лясы і балоты.

Схема была, у прынцыпе, тая ж, па якой былі падпісаныя дамовы аб узаемадапамозе з балтыйскімі краінамі, што скончылася іх акупацыяй. Фіны, навучаныя досведам Балтыі, на ўмовы СССР не пагадзіліся. Тады ў Тэрыоках (цяпер Зяленагорск) быў сфарміраваны так званы «народны ўрад» Фінляндыі, на чале якога паставілі ўцекача ў Савецкую Расію камуніста Ота Куусінена. А ўжо гэты марыянеткавы ўрад, які, зразумела, ніхто ў свеце не прызнаў, папрасіў Чырвоную армію аб «дапамозе».

Фіны моцна падзяўблі Чырвоную армію, і «маленькай пераможнай вайны» ў СССР не атрымалася. Але і выстаяць супраць вялізнай імперыі маленькая краіна не магла. Па мірнай дамове 12 сакавіка 1940 года яны згубілі тэрыторый значна больш, чым патрабавалі ад іх Саветы раней – 11% краіны, уключаючы Выбарг. Але захавалі галоўнае – незалежнасць.

Зараз мы можам пабачыць, дзе па развіцці Фінляндыя, а дзе – Расія. І зрабіць выснову, што са стратай тэрыторый жыццё краіны не заканчваецца.

«Востраў Суомі…», напісаны ў 2010 годзе, але выдадзены толькі ў 2019-м, – гэта якасная гістарычная публіцыстыка, напэўна, будзе падарункам тым, хто цікавіцца геапалітыкай і мадэлямі супрацьстаяння «гібрыднай вайне».

Дарэчы, вы ведаеце, што «кактэйль Молатава» насамрэч называецца «кактэйль **для** Молатава»? Калі савецкая авіяцыя бамбіла Фінляндыю, Молатаў казаў, што самалёты скідаюць гуманітарную дапамогу і прадукты. Фіны са своеасаблівым скандынаўскім гумарам і адказалі «кактэйлямі для Молатава».




## *Сабіна Брыло* «Малітоўнік прадзеда»

Гэты зборнік вершаў – не для нашага чытача. Але кнігу нельга не адзначыць, як яскравы поспех беларускай літаратуры за мяжой.

Паэтычны зборнік Сабіны Брыло ў перакладзе Гінтараса Граяўскаса з аздабленнем мастака Пятраса Лінцявічуса выйшаў у Вільні ў выдавецтве Versus. Прычым грошы на выданне 400 асобнікаў сабралі без усялякай краўдфандынгавай пляцоўкі, праз Facebook за… 38 хвілін! Неверагодна для кнігі замежнага і малавядомага для літоўскага чытача аўтара.

Ініцыятар выдання, літоўскі паэт, драматург і перакладчык Гінтарас Граяўскас так і напісаў у прадмове да «Малітоўніка прадзеда»: «Выдаць кнігу вершаў у Літве нялёгка… Калі аўтар вершаў знакаміты ў Еўропе, лаўрэат прэмій – шанцаў болей. А калі іх аўтар – амаль невядомы паэт з Беларусі? Шанцаў практычна няма. Я ведаю, я спрабаваў. Але што, калі паэт піша вельмі добра?

Раптам падчас аднаго моцна адчайнага настрою ў адзін са студзеньскіх вечароў я пішу ў Facebook, не чакаючы надта многа: людзі, глядзіце! Я пераклаў тэксты харошай паэткі Сабіны Брыло – некаторымі з іх я ўжо дзяліўся, можа быць, вы памятаеце. Я хацеў бы зрабіць харошую кнігу. І можа быць, хто-небудзь хацеў бы і мог зрабіць свой унёсак у яе выданне?

Менш чым праз гадзіну (!) у нас было шмат грошай, неабходных для выдання. Некаторым з апошніх жадаючых паўдзельнічаць нават казалі, што грошай больш не трэба, мы ім ветліва дзякавалі. Калі б мы не спыніліся, то, верагодна, выдалі б яшчэ адну кнігу».

Тут высновa толькі адна – не трэба палохацца спрабаваць. Нават там, дзе ўсё, падавалася б, проста безнадзейна. А раптам здарыцца цуд?

Дарэчы, сама Сабіна Брыло гэтую сітуацыю менавіта як цуд і расцэньвала.

## Ідзем далей

Зразумела, што ўсё, вартае для прачытаня, у адзін «топ» не ўлезе. Выдатны даведнік па Курапатах выдаў журналіст **Марат Гаравы** – кніжка



«НКВД забіваў у Курапатах…». Пасля яе прачытання ўжо не павінна быць сумневаў і агаворак, што, маўляў, «там забівалі нацысты».

**Сяргей Ваганаў**, якога мы ведаем пераважна як таленавітага публіцыста, у 2019 годзе прэзентаваў паэтычны зборнік «Я веру ў цуд». Прадмову да кнігі вершаў напісаў Уладзімір Някляеў, з якім аўтар знаёмы ўжо гадоў пяцьдзясят.

**Эдуард Мельнікаў** выдаў аўтабіяграфічнае «Вяртанне ў Бабруйск». А краязнаўца і журналіст **Сяргей Чыгрын** у выдавецтве «Кнігазбор» надрукаваў «Гістарычную мазаіку Слонімшчыны» – унікальнае выданне, заснаванае на багатым фотаархіве аўтара, дзе тэксты часцяком – толькі дапаўненне да фотаздымкаў.






Гістарычнае расследаванне «Дзеці Францыі. Гісторыі сем'яў, якія паверылі Сталіну» літаральна напярэдадні Новага года выпусціў журналіст Радыё Свабода **Валер Каліноўскі**.

Больш за ўсё ўсцешвае, што нашы журналісты пішуць і выдаюць самыя розныя кнігі – ад гісторыі да сатыры, ад публіцыстыкі да фотаальбомаў. І ўсё гэта – беларуская гісторыя і беларуская літаратура. За што ім вялікі дзякуй і плёну ў 2020-м.

## Галерэя БАЖ

Аляксандр Тамковіч

Search ...

Кнігі

- Арытмія, альбо Код супрацiву
- Асобы
- Без палiтыкi
- Будзiцелi
- Женщины
- Жыццё пасля кратаў
- З чаго пачынаецца свабода
- Iнтэрв'ю, якiх не было
- Лёсы
- Мазаiка жыцця
- Найноўшая гiсторыя ў асобах
- Неафiцыйна аб афiцыйных
- Няскораны Мiхаiл Марынiч
- Преодоление
- Стыгма
- Супраць плынi
- Фiласофiя дабрынi

ПЕРСАНАЛІІ

- Акудовiч Валянцiн
- Акулiн Эдуард
- Алексiевiч Святлана
- Аляксандраў Мiкалай
- Анiсiм Алена
- Анiська Сяргей
- Антончык Сяргей
- Антусевiч Сяргей
- Арастовiч Алесь
- Аркуш Алесь
- Арлоў Уладзiмiр
- Арэхва Анжалiка
- Астаповiч Антон
- Астрэйка Яўгенiя
- Атрошчанкаў Аляксандр
- Атчанашанка Людмiла
- Бабак Вольга
- Багданкевiч Станiслаў
- Багдановiч Марына
- Багдонас Эдмiнас
- Бандарэнка Андрэй
- Бандарэнка Вольга

# Вітаем!

Вітаем вас на старонках Галерэі БАЖ – інтэрнэт-энцыклапедыі, прысвечанай героям кніг Аляксандра Тамковіча.



Аляксандр Леанідавіч Тамковіч – нарадзіўся 9 лістапада 1963 года ў горадзе Ашмяны Гродзенскай вобласці.

У 1987 годзе скончыў факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча. Працаваў карэспандэнтам газеты «Во славу Родины», намеснікам галоўнага рэдактара газеты «Свободные новости». У 2001-м стварыў і ўзначаліў газету «День».

З 2000 года – сябра кіраўніцтва Беларускай асацыяцыі журналістаў. З 2009 года – сябра беларускага ПЭН-цэнтра.

З 2012 года – сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Узнагароджаны рознымі прэміямі, у тым ліку дыпломам імя Ю. Захаранкі «З паднятым забралам» і прэміяй ПЭН-цэнтра імя Алеся Адамовіча.

Наш калега Аляксандр Тамковіч героямі сваіх кніг абірае адметных сучаснікаў – навукоўцаў, пісьменнікаў, палітыкаў, журналістаў...

Людзі з акрэсленай грамадзянскай пазіцыяй, творцы і прыклады годнасці ў няпростым нашым жыцці склалі своеасаблівую інтэрнэт-энцыклапедыю, размешчаную ў Галерэі БАЖ :

**http://gallery.baj.by**

Спасылка на Галерэю БАЖ
http://gallery.baj.by
праз QR-код

